# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 39 (301) 4 — 10 кастрычніка 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ




СЁННЯ Ў НУМАРЫ





● Стар. 5




● Стар. 3

ЛІПЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

● Стар. 11



● Стар. 2



● Стар. 2




НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКІХ ФІЛЬМАЎ

● Стар. 3

П
ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

КАСТРЫЧНІК

АРТ-ВІТРАЖ

● Стар. 2–4



● Стар. 10



● Стар. 11



● Стар. 8–9



● Стар. 11



● Стар. 8–9

К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

# СЁННЯ — ЮБІЛЕЙ! А ШТО ДАЛЕЙ?

***Мінскай мастацкай вучэльні імя А.К.Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў — 50 гадоў. Менавіта паўстагоддзя таму з'явілася гістарычная пастанова Савета Міністраў СССР ад 25 чэрвеня 1947 года пра адкрыццё ў горадзе Мінску з 1 верасня гэтага ж года мастацкай вучэльні з наступнымі аддзяленнямі: мастацка-педагагічным, скульптурным, дэкаратыўна-афарміцельскім і ўжытковага мастацтва.***

***І на працягу жніўня быў ужо наладжаны прыём навучэнцаў на першы і другі курсы колькасцю 60 чалавек: на другі курс трапілі абітурыенты, больш падрыхтаваныя прафесійна. За гэты ж кароткі тэрмін былі падрыхтаваны вучэбныя памяшканні, зацверджаны штаты, навучальныя планы і праграмы, а таксама ўкамплектаваны педагагічны калектыў.***

***З тае пары мінула пяць дзесяцігоддзяў. І вось — залаты юбілей! Юбілей, што асветлены імёнамі выдатных педагогаў і выхаванцаў вучэльні, якія прынеслі славу нашай нацыянальнай культуры.***

***Напярэдадні святкавання гэтай даты наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам Мінскай мастацкай вучэльні імя А.К.Глебава, вядомым графікам Міхасём БАСАЛЫГАМ.***

**— Міхась Самуілавіч, 31 кастрычніка ў Палацы мастацтва адкрываецца вялікая выстава, прысвечаная юбілею. Што мы ўбачым у яе экспазіцыі?**

— Мы пакажам лепшыя работы, створаныя нашымі выхаванцамі за паўстагоддзя, у тым ліку дыпломныя і курсавыя. Безумоўна, многія з іх, на жаль, незваротна страчаны. Прычыны гэтага — частая змена месцазнаходжання вучэльні і жудаснае захоўванне твораў. Памятаю, калі я вучыўся ў ёй напрыканцы 50-х гадоў, дык бачыў у будынку Опернага тэатра, дзе мы тады займаліся, дзесяткі карцін на гарышчы, што былі проста звалены ў кучу. І дзе яны цяпер — невядома...

**— Але штосьці, мабыць, усё ж захавалася?**

— Безумоўна. Асабліва творы апошняй чвэрці стагоддзя. Так, глядач ўпершыню ўбачыць дыпломныя карціны "Пасля сходу" Васіля Шаранговіча, "Уборка бульбы" Антона Валатовіча, многія іншыя... Спадзяемся, што да вернісажу выставы будзе зроблены каталог, што рыхтуе выдавецтва "Беларусь"...

**— Калі ўзнікла вучэльня, навучальных устаноў такога профілю на Беларусі пасля вайны не існавала. І гэта, напэўна, наклала свой адбітак на мастацкую адукацыю таго часу?**

— Несумненна. Трэба ўлічыць, што першыя наборы навучэнцаў складаліся, у асноўным, з франтавікоў, якія змянілі аўтаматы на пэндзлі, а таксама з "дзяцей вайны"...

**— Напрыклад?**

— Віктар Грамыка, Леанід Шчамялёў, Міхаіл Савіцкі, Віктар Пратасеня, Ігар Глебаў, Іван Стасевіч, Уладзімір Мінейка... А з моладзі — Леў Гумілеўскі, Май Данцыг, Барыс Забораў, Дзмітрый Алейнік, Людвіг Асецкі, Лявон Баразна, Генадзь Мурамцаў, Георгій і Наталля Паплаўскія — ды хіба можна ўсіх пералічыць? Карацей, імёны, якія пазней трывала ўвайшлі ў нашае мастацтва...



**— А педагогі?**

— Педагогі былі бліскучыя! У розныя гады тут выкладалі Віталь Цвірко і Андрэй Бембель, Валянцін Волкаў і Сяргей Каткоў, Леў Лейтман і Альгерт Малішэўскі, Аляксандр Мазалёў і Аскар Марыкс, Леанід Шчамялёў і Мікалай Залозны, Алег Луцэвіч і Канстанцін Касмачоў...

**— Так, проста зорны россып педагогаў і мастакоў...**

— Я ўжо не кажу пра тое пакаленне, што прайшло нашу "alma mater" і якое мы сёння называем "сярэднім". Яно разам са сваімі папярэднікамі складае аснову нацыянальнага мастацтва...

**— Якія аддзяленні існуюць ў вучэльні сёння?**

— Жывапісна-педагагічнае, скульптурнае, дрэваапрацоўчае, дызайнерскае...

**— Як дырэктар, чым ты задаволены?**

— Тым, што няма праблем з наборам абітурыентаў. Уяві сабе: сёлета конкурс быў 8 чалавек на месца на аддзяленні дызайну, і 5 — на жывапісна-педагагічным. А гэта значыць, наплыў жадаючых вялікі, што сведчыць пра многае. Мы ж даем выдатную стартавую пляцоўку, што дазваляе пасля вучэльні выйсці на вялікі шлях жыцця і мастацтва...

**— Як складваюцца лёсы выпускнікоў?**

— Па-рознаму. Але, у асноўным, нармальна. Хтосьці паступае ў Акадэмію мастацтваў, хтосьці — ва Універсітэт культуры альбо на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Некаторыя вучацца ў "Строганаўцы" ў Маскве і ў "Мухінцы" — у Пецярбургу, двое — у Варшаўскай Акадэміі мастацтваў. Ёсць "нашы" і ў ЗША, і ў Ізраілі, і ў Францыі...

**— А чым ты незадаволены?**

— У асноўным, матэрыяльнай базай. У нас няма інтэрната, у выніку чаго іншагароднім даводзіцца наймаць прыватныя кватэры. Няма спартыўнай і актавай залаў. Няма нават... гардэроба. Цяжкасці з фарбамі. Няма прыдатных памяшканняў для заняткаў. Уяўляеш, навучэнцы дрэваапрацоўчага аддзялення вымушаны займацца разьбой у скляпенні жылога дома па вуліцы Змітрака Бядулі, 5, дзе няма нават вокнаў! Калі я прыйшоў сюды працаваць дырэктарам, абвальвалася столь. Я з жахам назіраў: зверху ляціць тынкоўка, а ўнізе паселі дзеці і малююць нацюрморт!

**— А што ж Міністэрства культуры?**

— Міністэрства нам на працягу апошніх пяці гадоў значна дапамагло. Сёння мы ўжо скончылі рамонт даху і некаторых класаў, у тым ліку і скульптурных, надалі належны выгляд нашым майстэрням-мансардам у доме на рагу вуліцы Варвашэні і праспекта Скарыны...

**— Я ведаю, што ў вас ёсць неблагі музей...**

— Дакладней, музейны фонд. Ён створаны ўжо пры мне. Вядзем нармальны ўлік, сочым за захаваннем твораў. Некаторыя рэстаўруем. Дарэчы, самі наладзілі вытворчасць падрамнікаў і рам.

**— Самі адліваеце скульптуры...**

— Ну не! Да гэтага мы яшчэ не дайшлі. Безумоўна, хацелася б да выставы адліць хаця б у гіпсе некалькі цудоўных работ нашых выхаванцаў... Але пакуль у нас пераважна гліна, пластылін... Патрэбен фарматор, патрэбныя грошы... Будзем шукаць выйсце...

**— Такім чынам, твае галоўныя праблемы на сённяшні дзень — матэрыяльная база і забеспячэнне нармальнага вучэбнага працэсу. Ці так?**

— І яшчэ б мы хацелі мець камп'ютэрны клас. Тут Міністэрства культуры пайшло нам насустрач, і мы ўжо набылі адзін камплект камп'ютэрнай тэхнікі. Але нам патрэбна не менш за пяць такіх камплектаў...

**— Хто з педагогаў сёння працуе ў вучэльні?**

— У асноўным гэта выпускнікі Акадэміі мастацтваў. Трэба ўлічыць, што педагагічная дзейнасць мае сваю спецыфіку: не заўсёды выдатны мастак можа стаць добрым педагогам...

**— Гэта як у футболе: не заўсёды выдатны футбаліст стане трэнерам...**

— Менавіта так. А добрыя педагогі не заўсёды ідуць да нас з прычыны мізэрных заробкаў. Педагогі з вышэйшай катэгорыяй маюць зарплату трохі больш як 1 мільён 300 тысяч рублёў. Хіба можна выжыць за гэтыя грошы? Але ты папытаўся ў мяне пра педагогаў... Аляксандр Салькоў, Ігар Уласаў, Вячаслаў Рускевіч, Мікола Купава, Аляксей Высоцкі, Леанід Пяхота, Васіль Касцючэнка, Леанід Каленік, Уладзімір Жбанаў ды іншыя. Педагогі добрыя, якія любяць сваю справу, а гэта — галоўнае!

**— Колькі чалавек пакідаюць штогод сцены вучэльні?**

— Прыкладна 50 — 60. Гэта ўсё ж недастаткова для такой магутнай навучальнай установы, што мае за плячыма не толькі цікавую гісторыю і традыцыі, але і унікальны вопыт...

**— Што чакае вучэльню заўтра?**

— Улічваючы сённяшняе эканамічнае становішча краіны, прадбачыць цяжка. Вось мы зрабілі праектную распрацоўку двух карпусоў вучэльні і інтэрната. Цяпер патрэбны праект, але ці здолеем яго здзейсніць? Хачу спадзявацца, што гэта адбудзецца яшчэ пры маім жыцці...

**— Ну што ж, Міхась Самуілавіч, ад імя рэдакцыі "К" сардэчна віншую з юбілеем вучэльні. Мы верым, што ў вас усё здзейсніцца...**

— Дзякуй за віншаванні.

**З дырэктарам Мінскай мастацкай вучэльні-юбіляркі сустракаўся Барыс КРЭПАК**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ПАЛАЦ МАСТАЦТВА

## АЛЕГОРЫІ УЛАДЗІМІРА ТКАЧОВА



У.Ткачоў.

**14 кастрычніка** адкрываецца выстава жывапісу Уладзіміра Ткачова, прысвечаная 50-годдзю з дня ягонага нараджэння.

20 гадоў таму ён стаў сябрам Саюза мастакоў, і ўжо тады Міхаіл Савіцкі, Гаўрыла Вашчанка і аўтар гэтых радкоў, якія рэкамендавалі яго ў Саюз, адзначалі надзвычайнае дараванне Уладзіміра не толькі як мастака-манументаліста, аднаго з аўтараў габелена "Музыка" ў Белдзяржфілармоніі і арыгінальных вітражоў у ТЮГу, але і як таленавітага жывапісца-станкавіста з шырокім колам мастакоўскіх схільнасцяў і творчых прынцыпаў. З тае пары мне запомніліся ягоныя карціны "Алегорыя лета", "Роздум", "Жанчына з глечыкам", "На палях Уздзеншчыны", палотны, прысвечаныя Францішку Скарыне і Паўлюку Трусу...



У.Ткачоў. "Вершнікі Апакаліпсісу".

Сёння У.Ткачоў працуе, у асноўным, у жанры буйнамаштабнай станковай карціны. Карціны-алегорыі. Карціны-казані. Карціны, у якой мастак звяртаецца не толькі да вечна надзённых біблейскіх сюжэтаў ("Хрыстос з трыма постацямі", "Галгофа", "Юдзіф", "Тайная вячэра", "Вершнікі Апакаліпсіса"), але і да падзей, дзе добрае і злое насенне так шчодра раскіданае па нашай зямлі. І што з яго заўтра ўзрасце, што пераможа ў выніку — дабро ці зло, — хай вырашаюць гледачы ("Агрэсія", "Час для салдата", "Вечаровая рыбная лоўля з канцэртам Вато").

На выставе будуць экспанавацца каля сотні твораў жывапісу, а таксама кардон няздзейсненага манументальнага габелена "Тайная вячэра".

**Б.К.**

**Фота Яўгена КОКТЫША**

* * *

З **15 кастрычніка** — выстава твораў Ларысы Жураловіч (графіка).

З **27 кастрычніка** — выстава твораў Уладзіміра і Тамары Васюкоў (плакат, кераміка, кніжнае афармленне).

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

З **8 кастрычніка** — выстава твораў памяці Таісы Хацановіч-Дарбінян (габелен, батык, акварэль, алей).

З **9 кастрычніка** — выстава маладых мастакоў (з творчых акадэмічных майстэрняў Міністэрства культуры РБ).

# ГАЛЕРЭЯ "МАСТАЦТВА"

З **2 кастрычніка** працуе выстава акадэміка жывапісу Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікса Янушкевіча.

# ЧАС ФРАНЦУЗСКІХ КНІГ

Штогод з 1994 года Міністэрства культуры Францыі праводзіць не толькі ў Францыі, але і за яе межамі акцыю "Час Кніг". Яе мэта — пашырэнне цікавасці да чытання ў шырокіх мас насельніцтва. Традыцыйна ў акцыі задзейнічаны выдавецтвы, крамы, бібліятэкі, музеі, навучальныя ўстановы. Дзякуючы намаганням аддзела культуры Амбасады Францыі ў Беларусі трэці год запар да "Часу Кніг" далучаюцца і нашы суайчыннікі.

З **15 па 31 кастрычніка** пройдзе каля дзесятка мерапрыемстваў з мэтай звярнуць увагу беларускіх партнёраў (якімі французы лічаць нашы бібліятэкі, школы і універсітэты, выдавецтвы і сродкі масавай інфармацыі) і проста беларусаў на сучасную французскую літаратуру. Дарэчы, да акцыі сёлета далучыўся часопіс "Сучасная літаратура", у ягоным кастрычніцкім нумары — выключна новыя пераклады з французскай. Цэнтрам увагі сёлетняга "Часу Кніг" будзе дэтэктыўная літаратура. У некалькіх мінскіх школах пройдзе нават майстэрня для юных аматараў гэтага жанру, а потым і конкурс на лепшы "самаробны" дэтэктыў.

Падчас акцыі "Час Кніг" адбудзецца ўрачыстая перадача кніг, падораных Нацыянальнай бібліятэкай Францыі некалькім беларускім бібліятэкам. Каардынатарам усёй двухтыднёвай акцыі разам з Амбасадай Францыі выступае Франка-беларуская зала інфармацыі, што знаходзіцца ў мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна, тэл.239-69-24.

**Ігар КЛОКАЎ**

# СТУДЭНЦКІ АРКЕСТР З КАРЛСРУЭ

**Амбасада Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь паведамляе, што 8 кастрычніка а 19-й гадзіне ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца канцэрт камернага аркестра універсітэта горада Карлсруэ.**

Гэты аркестр з'яўляецца адным з самых вядомых сярод вышэйшых навучальных устаноў Германіі. Ён быў заснаваны яго́ным кіраўніком Дзітэрам Кёнляйнам у 1976 годзе. У першыя гады праграма калектыву ў асноўным складалася з твораў эпохі барока, а таксама з класічнай музыкі. Пазней аркестр стаў больш цікавіцца інтэрпрэтацыяй рамантычнай і сучаснай музыкі. Аркестр ужо тройчы (1985, 1992 і 1996) атрымліваў прызы на конкурсах аркестраў Германскага музычнага савета і неаднаразова гастраляваў у розных краінах свету.

У праграме канцэрта, які адбудзецца ў Мінску, — наступныя творы:

— Л. ван Бетховен, Сімфонія № 1 До-мажор;

— Д.Шастаковіч, Канцэрт № 1 до-мінор для фартэпіяна з аркестрам;

— А.Дворжак, Сэрэнада Мі-мажор.

Гастрольная паездка камернага аркестра універсітэта з Карлсруэ ў Мінск стала магчымай дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Германіі, а таксама дзякуючы кантактам з фальклорным ансамблем "Ведрыца", які сёлета ў чэрвені браў удзел у еўрапейскім фестывалі фальклорных ансамбляў у гэтым нямецкім горадзе.

Беларуская ОПЕРА

# У ОПЕРЫ...

Сярод шаснаццаці назваў, што значацца ў кастрычніцкай афішы Нацыянальнага тэатра оперы, амаль кожная абяцае нешараговы вечар. Пералічым асабліва адметныя спектаклі.

Напрыканцы мінулага сезона з вялікім поспехам прайшоў канцэрт удзельнікаў Дзіцячай студыі пры тэатры. Зноў парадавацца поспехам маладых музыкантаў і спевакоў зможа той, хто прыйдзе раніцай у нядзелю **19 кастрычніка** на канцэрт "Падарожжа ў свет музыкі".

Памяці Ісідара Балоціна прысвечаны спектакль "Рыгалета" **7 кастрычніка** — Ісідар Міхайлавіч у свой час быў непараўнальным выканаўцам партыі Герцага. Уладальнік цёплага і гібкага лірычнага тэнара, І.Балоцін працаваў у нашым Вялікім тэатры ўсё жыццё, з самага моманту яго адкрыцця і да сваёй заўчаснай смерці ў 1961 годзе, ягоны рэпертуар налічваў 60 партый. Дарэчы, у фае другога паверха тэатра, разгорнута выстава прысвечаная творчасці артыста, якому ў гэтым годзе споўнілася б 90 гадоў.

Незвычайны юбілей святкуе Тамара Кучынская — 30 гадоў у вобразе Віялеты Валеры. Артыстка адзначыць гэтую дату выкананнем сваёй "галоўнай партыі" ў новай "Травіяце" (сёлетняй прэм'еры тэатра) **25 кастрычніка**.

У суботу **18 кастрычніка** адбудзецца творчы вечар Эдуарда Пелагейчанкі, народнага артыста Расіі, вядучага саліста нашай оперы, які адзначае 25-годдзе творчай дзейнасці. У праграме вечара ўрыўкі з найбольш вядомых і складаных тэнаровых партый як з бягучага рэпертуару тэатра, так і з опер, што не ідуць на нашай сцэне: арыёза Германа з "Пікавай дамы" і арыёза Ленскага з "Яўгенія Анегіна", сцэна і арыя з "Візіту дамы" С.Картэса, італьянская тарантэла Дж.Расіні, плач Федэрыка з "Арлезіянкі" Чылеа, стрэта Манрыка з "Трубадура" Вердзі, брындзізі з "Травіяты"...

Свой паўвекавы юбілей адзначае ў кастрычніку галоўны дырыжор тэатра, музычны кіраўнік многіх цікавых пастановак апошніх гадоў маэстра Аляксандр Анісімаў. Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі А.Анісімаў добра вядомы за межамі нашай краіны, выступае з аркестрамі Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Казані, Самары, Рыма, Генуі, Мадрыда, Амстэрдама, з'яўляецца госць-дырыжорам Марыінскага тэатра і галоўным госць-дырыжорам Нацыянальнай філармоніі Ірландыі. У 1995 годзе Мансэрат Кабальe запрасіла яго дырыжыраваць сваім гала-канцэртам у Маскве. У рэпертуары маэстра 36 оперных, 19 балетных спектакляў, больш за 20 праграм сімфанічнай і кантатна-аратарыяльнай музыкі. Оперу "Князь Ігар", якая будзе выканана ў юбілейны вечар 21 кастрычніка, Аляксандр Анісімаў ставіў у якасці музычнага кіраўніка не толькі ў нас, але таксама і ў Марселі і Сан-Францыска.

# ... І Ў БАЛЕЦЕ

Эстафету юбілейных спектакляў падтрымлівае ў кастрычніку і Нацыянальны тэатр балета. **31 кастрычніка** — святочны вечар у гонар 50-годдзя народнага артыста СССР і Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, акадэміка Валянціна Мікалаевіча Елізар"ева. Прыхільнікаў балета і паклоннікаў творчасці майстра чакае сюрпрыз: у гэты вечар будзе выканаы не толькі добра знаёмы балет "Карміна Бурана", але і адна з яго работ, што доўгі час не ішла на нашай сцэне — "Весна свяшчэнная" на музыку І.Стравінскага.

Наогул у разнастайнай афішы тэатра ў кастрычніку як заўсёды шмат цікавых спектакляў, але яшчэ больш цікавага — у складзе выканаўцаў. Рыхтуе чарговую сольную партыю палюбіўшаяся ўжо гледачам маладая салістка Святлана Гарбунова. Да трупы далучыліся ў новым сезоне артысты, што нядаўна тут працавалі, але потым шукалі сябе ў іншых тэатрах: вярнулася з музкамедыі Таццяна Ерахавец, з Масквы прыехаў Алег Карзянкоў. Цяпер яны рыхтуюць партыі бягучага рэпертуару, магчыма, у кастрычніку мы і ўбачым іх на сцэне.

Ігар КЛОКАЎ

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ КІНАФОРУМ: НАСУСТРАЧ СВАЁЙ МІНУЎШЧЫНЕ!

***22 кастрычніка ў Брэсце распачынаецца Першы нацыянальны фестываль беларускага кіно. Падзея, згадзіцеся, неардынарная, і каб атрымаць інфармацыю з першых рук, мы звярнуліся да намесніка міністра культуры краіны Юрыя ЦВЯТКОВА.***

**— Юрый Мікалаевіч, чаму менавіта Брэст абраны месцам правядзення першага кінафестывалю на Беларусі?**

— Гэты горад мае надзвіва багатую гісторыю, акурат яго гістарычнае мінулае прыцягвае найперш да гэтага горада. Ці патрэбны каментар, калі пачуеш: Брэсцкая крэпасць? Адразу ж у памяці абуджаюцца пэўныя асацыяцыі не такой ужо далёкай мінуўшчыны. У гады Вялікай Айчыннай вайны гэты горад адыграў вялікую ролю ў барацьбе і вызваленні Беларусі ад фашысцкай навалы. А наша беларуская кінатворчасць мае яркае патрыятычнае гучанне, якраз на фестывалі будзе паказана шмат фільмаў на патрыятычную тэму, якія маюць вялікае выхаваўчае значэнне: у першую чаргу яны выхоўваюць нашу моладзь, будучае нашай краіны. Фільмы гэтыя, на нашу думку, будуць і лепш успрымацца гледачом менавіта на берасцейскай зямлі, шчодра палітай крывёю нашых суайчыннікаў і ў 41-м і ў 44-м. Не, месца правядзення першага беларускага кінафестывалю выбрана невыпадкова...

**— Арганізатары першага Берасцейскага?**

— Арганізатары — гэта і ёсць яго заснавальнікі: Міністэрства культуры РБ, Беларускі саюз кінематаграфістаў, Брэсцкія аблвыканкам і гарвыканкам.

**— Закранём самае надзённае і балючае пытанне: фінансаванне фестывалю.**

— Фестываль у асноўным будзе фінансавацца з бюджэту. Будуць і пазабюджэтныя сродкі, частку іх выдзяляе Брэсцкі аблвыканкам і гарвыканкам, але, на жаль, яны могуць выдзеліць няшмат. Бярэ ўдзел у фінансаванні фестывалю Міністэрства культуры.

**— Калі з'явілася ідэя правядзення такіх фестываляў?**

— Ідэя правядзення фестываляў беларускай кінатворчасці была падказана і прадыктавана самім жыццём. Узгадаем ранейшыя. Раней праводзіліся штогадовыя агляды беларускага кінематографа. Пасля на працягу нейкага часу, здаецца, сямі гадоў, такія агляды зусім не праходзілі. Гады тры таму конкурсны агляд беларускіх фільмаў зноў аднавіўся, але ён нёс на сабе адзнаку выпадковасці. Ва ўсякім разе ён пакінуў у мяне такое ўражанне. Сёння ж, калі мы — самастойная еўрапейская дзяржава, прызнаная ўсім светам, наспела такая неабходнасць — праводзіць фестываль нацыянальнага кіно. На фестывалі будуць прадстаўлены мастацкія фільмы 94 — 96 гадоў, але конкурсны паказ закране мастацкія стужкі 95 — 96 гадоў. Гэта ж датычыць, прынамсі, і анімацыйных фільмаў. А вось дакументальныя фільмы не ўсе трапяць на фестываль. Тут ужо працавала спецыяльная камісія па адборы... Да асвятлення і правядзення фестывалю прыцягнулі беларускае радыё і тэлебачанне, прэсу, шырокае кола кінакрытыкаў, акцёраў. Будуць дэманстравацца не толькі стужкі, створаныя "Беларусьфільмам", але і кінапрадукцыя незалежных студый.

**— Які склад журы Першага нацыянальнага?**

— Суддзя павінен быць незалежны, а значыць — запрошаны збоку. Старшыня журы — вядомы рускі акцёр, Оскараўскі лаўрэат Уладзімір Меншоў, ён знаёмы гледачам па фільме "Масква слязам не верыць". Астатнія члены журы — прадстаўнікі не толькі кінакультуры, а беларускай культуры наогул.

**— Журы будучага фестывалю прадстаўнічае. А якія ўзнагароды чакаюць лаўрэатаў?**

— Першая ўзнагарода — канешне ж, за лепшы фільм. Будуць уручаны таксама шэсць прызоў у намінацыях. Зараз я вяду гаворку з журналістамі жанчынай, таму ў першую чаргу адзначаю прыз у намінацыі "За лепшую жаночую ролю". На фестывалі будзе прадстаўлена шэраг фільмаў, дзе нашы кінаактрысы цудоўна справіліся з ролямі і змаглі стварыць вобраз нашай беларускай жанчыны, увасобіць яе найлепшыя рысы.

**— У шматлікім шэрагу мастацкіх стужак фестывалю — фільм адышоўшага ад нас творцы Віктара Турава.**

— Гэта — даніна яго памяці, нашай памяці і пашаны Вялікаму Рэжысёру і Чалавеку. Дарэчы, за апошнія гады ад нас пайшлі вельмі многія таленавітыя рэжысёры: Вадзім Сухманаў, Валерый Басаў, Віталь Шувагін, Адольф Канеўскі і іншыя. Іх фільмы будуць паказаны на фестывалі. Мы вырашылі, маўляў, няхай маладыя бачаць, што творчасць іх папярэднікаў не забытая, тое, што створана, застаецца ў культуры і будзе служыць яшчэ многім пакаленням, будзе рыхтаваць да жыцця, падказваць маральныя арыенціры маладым людзям.

**— Што вы чакаеце ад фестывалю?**

— Увагі гледачоў і прыцягненне іх да кінатэатраў. Мне здаецца, што, калі сёння казаць, быццам нацыянальнае кіно загінула, мала хто на ўвазе слабое наведванне кінатэатраў. Але ж давайце палічым, колькі мастацкіх фільмаў дэманструецца за адзін дзень па тэлеканалах, дык ці ёсць падставы казаць пра малую глядацкую аўдыторыю нашай краіны? Спадзяюся, што Першы нацыянальны фестываль беларускага кінамастацтва падвысіць агульную глядацкую культуру нашых сучаснікаў, што акрэсліцца перспектывы новых фестываляў, якія будуць праводзіцца пазней. Увогуле ж фестываль — гэта яшчэ адзін крок насустрач да нацыянальнай кінакультуры, да культуры наогул, крок насустрач... сваёй мінуўшчыне!

Занатавала Алена РЫГОРАВА

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

П ПАДЗЕІ ПРАБЛЕМЫ ПРАГРАМЫ ПРАЕКТЫ

КАСТРЫЧНІК

АРТ-ВІТРАЖ

№ 39 4 — 10 кастрычніка 1997.



# ЭЛЕКТРОННАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БУДЗЕ!



**Уладзімір СКАРАХОДАЎ, рэктар Беларускага інстытута праблем культуры:**

— Мы на парозе XXI стагоддзя, і ўжо адчувальна, што яно будзе яшчэ больш пакручастае ад веку цяперашняга.

Ды ўсё ж у бясконцым пазнанні свету людскі розум здольны, абапіраючыся на навуку, акрэсліць сапраўднае прызнанне культуры ў будучыні. І неўзабаве прыйдзе той час, калі чалавецтвам будзе ўсвядомлена яе вялікасць і мудрасць.

У бліжэйшы час БелІПК праводзіць дзве значныя канферэнцыі: 19—21 лістапада "Чалавек. Культура. Экалогія" ў Гомелі і "Сусветная мастацкая культура ў сістэме сярэдняй адукацыі: дасягненні, праблемы, перспектывы".

Звычайна вынікі навукова-практычных акцый інстытута аб'ядноўваюцца ў выданні, з часу адкрыцця інстытута выйшлі ў свет больш за 100 выданняў навукова-метадычнай, вучэбнай і рэпертуарнай літаратуры. Але зараз БелІПК распачаў грандыёзную працу па падрыхтоўцы новага выдання па гісторыі і тэорыі беларускай культуры. Задуманае выданне ствараецца на базе сучасных інфармацыйных тэхналогій і мае два напрамкі рэалізацыі: як электроннае выданне дасягненняў культуры Беларусі і як электронная энцыклапедыя культуры Беларусі. Упершыню робіцца спроба даць агляд духоўнай і матэрыяльнай культуры народа ў мультымедыйнай форме, якая спалучае друкаванае слова, жывое маўленне, статычны і рухомы вобраз, а таксама музыку.

**М.Б.**

# ПЕРАЛІЧЫЦЬ ПРОСТА НЕМАГЧЫМА

***Інтэрв'ю ў старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі Арсена Ваніцкага я браў у дзень, калі ён з хвіліны на хвіліну чакаў прыезду вялікай дэлегацыі школы Рамапо Дзіцячага Чарнобыльскага фонду (штат Нью-Ёрк, ЗША).***

***Вясёлых, зычлівых дзяцей гэтага фонду, створанага настаўнікам школы панам Дональдам Кэрнзам, я бачыў летась падчас іхняга візіту. Яны не толькі прывозяць на Беларусь лекі і медыцынскае абсталяванне, (дарэчы, ужо прыкладна на 15 мільёнаў долараў), але і прымаюць у сябе высокіх гасцей з маладой суверэннай дзяржавы — так, напрыклад, у 1995 г. школа прымала прэзідэнта нашай краіны А.Лукашэнку. Тут, у Доме дружбы яны спявалі амерыканскія і беларускія песні, сустракаліся са сваімі равеснікамі. Сёлета яны збіраюцца прывезці дапамогу на суму каля ста тысяч долараў.***

***Яшчэ адзін гуманітарны акт з боку замежных сяброў прадэманстраваў Арсен Мікалаевіч, вывеўшы мяне на вуліцу, каб паказаць толькі што пафарбаваны падоранай італьянцамі фарбай будынак Таварыства. А пасля я задаў яму пытанне, дзеля якога прыехаў:***

**— Арсен Мікалаевіч, якія самыя цікавыя падзеі вашага каляндарнага месяца?**

— Пачну з таго, што мы распачалі гэты месяц вечарынай, прысвечанай 48-й гадавіне Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэта працяг добрай традыцыі нашага Таварыства — адзначаць найбольш значныя падзеі жыцця нашых сяброў разам з нацыянальнымі Таварыствамі дружбы і ўдзелам пасольстваў. Адметную ролю тут адыгралі прэзідэнт таварыства "Беларусь — Кітай" Анатоль Вярцінскі, сакратар Алена Мілаванава і радца пасольства КНР у Беларусі У Хун Бін.

Ужо ідуць Дні эканомікі і культуры Беларусі ў Вялікабрытаніі, дзе цяпер знаходзіцца вялікая дэлегацыя дзеячаў культуры, у тым ліку адказны сакратар таварыства "Беларусь — Брытанія" Ігар Самовіч і ансамбль "Купалінка".

**У кастрычніку** ў рамках сумеснай нямецка-беларускай праграмы чакаецца прыезд грамадкасці з Ніжняй Саксоніі на чале з Хільтруд Шродэр, якая прывязе да нас чарговую партыю ультрагукавых сканераў для ранняй дыягностыкі захворванняў і правядзе падрыхтоўку медперсаналу для работы з гэтым абсталяваннем — дарэчы, фонд Х.Шродэр паставіў на Беларусь ужо 90 такіх сканераў.

**7 кастрычніка** таварыства "Беларусь — Латвія", якое ўзначальвае Сяргей Панізнік, правядзе вечарыну, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння выдатнай спявачкі і кампазітара Ірмы Юнзем, а **9-га** чакаецца выступленне аркестра сімфанічнай музыкі Універсітэта г.Карлсруэ. У гэты ж месяц адбудзецца вечарына, прысвечаная класіку казахскай літаратуры Мухтару Ауэзаву, якому сёлета споўнілася б сто гадоў.

**25 кастрычніка** пачнуцца Дні балгарскай культуры ў Беларусі, якія адбудуцца ў нас пасля праведзеных нядаўна аналагічных дзён Беларусі ў Балгарыі, дзе быў выдадзены альманах "Панарама" з творамі беларускіх аўтараў.

А ўвогуле, у нашым Доме дружбы амаль кожны дзень адбываецца нейкая цікавая падзея. Усе іх пералічыць проста немагчыма...

**Ягор ФРАДЗЮШЫН**

**8 кастрычніка** а 17-й гадзіне, як і кожную сераду, у Петрапаўлаўскай царкве адбудзецца набажэнства на беларускай мове. Хор праваслаўнага брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў выканае акафіст святым мучанікам віленскім Антонію, Іаану і Яўстафію, пераклад якога зроблены Анатолем Клышкам.

# ІМПРЭЗЫ "ДЛ"

Адчыніліся пасля летняга адпачынку тэатры і канцэртныя залы сталіцы. Свой чарговы творчы сезон распачынае і Дом літаратара. Першая вечарына — "Заўсёды і ўсюды ў сэрцы маім малітва адна — Айчына" — пройдзе **8 кастрычніка**. Яна прысвячаецца 80-м угодкам народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. Прыхільнікі яго таленту адкрыюць для сябе невядомыя старонкі жыцця і творчага шляху пісьменніка, грамадзяніна, чалавека. З успамінамі выступяць літаратары розных пакаленняў. У выкананні артыстаў, спевакоў, музыкантаў прагучаць вершы, песні, а таксама любімыя класічныя творы паэта. "Сустрэцца" з самім Піменам Емяльянавічам дапаможа дакументальная стужка "І вера, і вернасць".

ДОМ ЛІТАРАТАРА

**17 кастрычніка** Дом літаратара запрашае на спектакль Бялыніцкага народнага тэатра паводле п'есы Міхася Карпечанкі "Канвеер" у пастаноўцы заслужанага дзеяча культуры Беларусі рэжысёра Валянціна Ермаловіча.

Пад назвай "Няскораная чалавечнасць" **22 кастрычніка** адбудзецца вечарына памяці, прысвечаная 70-годдзю Алеся Адамовіча. Завяршае кастрычніцкую афішу Дома літаратара вечарына маладых літаратараў, якія **29 кастрычніка** спраўляюць першы 5-гадовы юбілей часопіса "Першацвет". Пасля ўрачыстай часткі вечарына будзе працягвацца ў форме дыскатэкі.

Усе імпрэзы пачынаюцца а 18-й гадзіне.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

# КАСТРЫЧНІЦКАЯ АФІША ФІЛАРМОНІІ

Філармонія распачала свой юбілейны, 60-ы сезон 19 верасня. Аднак жа ў афішы **1 кастрычніка** пазначана таксама як адкрыццё юбілейнага сезона філармоніі. Акурат у гэты дзень адзначаўся Міжнародны дзень музыкі. Да гэтага свята быў прымеркаваны канцэрт сімфанічнага аркестра БДФ пад кіраўніцтвам Мішы Каца. У канцэрце прымала ўдзел таксама харавая капэла імя Рыгора Шырмы, дырыжыравала Людміла Яфімава. **4 кастрычніка** мінчукі змогуць наведаць філармонію, каб убачыць выступленне сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі "Маладая Беларусь", саліст — Андрэй Сікорскі. **8 кастрычніка** наведнікаў філармоніі чакае сустрэча з Камерным аркестрам пад кіраўніцтвам Эдуарда Панасе. **10 кастрычніка** — канцэрт Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра, дырыжор — Віктар Собалеў; у праграме творы Вагнера. **12 кастрычніка** адбудзецца канцэрт Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь, якім дырыжыруе знакаміты Міхаіл Фінберг.

Залатая Горка (касцёл Святога Роха) запрашае мінчукоў **3 кастрычніка** на канцэрт арганнай музыкі. **4 кастрычніка** тут адбудзецца вечар рускага раманса, а **7-га** — выступленне Камернага хору Рэспублікі Беларусь. **16 кастрычніка** мінчукі змогуць паслухаць знакаміты ансамбль "Класік-авангард", у праграме канцэртаў — творы Шуберта, Гайдна, Моцарта.

**А.Р.**

# АБ УСТАНАЎЛЕННІ СПЕЦЫЯЛЬНЫХ ПРЭМІЙ ЗА ДАСЯГНЕННІ Ў ГАЛІНЕ МАСТАЦТВА Ў 1997 ГОДЗЕ

Улічваючы значны ўклад дзеячаў культуры і мастацтва ў развіццё нацыянальнай культуры, эстэтычнае выхаванне насельніцтва, у мэтах заахвочвання творчай інтэлігенцыі на мастацкі пошук і стварэнне твораў высокага грамадзянскага гучання, прызнаных шырокай грамадскасцю, калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Устанавіць спецыяльныя прэміі ў памеры 100 мінімальных заработных плат кожная за значныя дасягненні ў галіне мастацтва ў 1997 годзе ў наступных намінацыях:

— музычнае мастацтва;
— тэатральнае мастацтва;
— крытыка і мастацтвазнаўства;
— выяўленчае мастацтва;
— эстрадна-цыркавое мастацтва;
— народная творчасць;
— мастацкая літаратура;
— архітэктура і рэстаўрацыя;
— кіно і тэлебачанне;

У снежні 1997 года на пашыранай калегіі Міністэрства культуры з удзелам прадстаўнікоў творчых саюзаў і ўстаноў культуры і мастацтва разгледзець матэрыялы, прадстаўленыя камісіяй па прысуджэнні спецыяльных прэмій.

Дарučыць рэдакцыі газеты "Культура" шырока асвятляць ход вывучэння кандыдатаў на спецыяльныя прэміі.

### ПАЛАЖЭННЕ аб спецыяльных прэміях за дасягненні ў галіне мастацтва ў 1997 годзе

Спецыяльныя прэміі за дасягненні ў галіне мастацтва ўстанаўліваюцца ў наступных намінацыях:

— музычнае мастацтва;
— тэатральнае мастацтва;
— крытыка і мастацтвазнаўства;
— выяўленчае мастацтва;
— эстрадна-цыркавое мастацтва;
— народная творчасць;
— мастацкая літаратура;
— архітэктура і рэстаўрацыя;
— кіно і тэлебачанне.

Кандыдатамі на атрыманне спецыяльных прэмій могуць з'яўляцца дзеячы культуры і мастацтва, якія маюць асабістыя значныя дасягненні ў мастацтве на працягу года.

У кожнай намінацыі прысуджаецца адна прэмія.

Вылучэнне на саісканне прэмій ажыццяўляюць упраўленні і аддзелы культуры выканкамаў мясцовых саветаў, творчыя саюзы, грамадскія аб'яднанні і аргкамітэты, установы культуры і мастацтва.

Матэрыялы (прадстаўленне, творчая характарыстыка) накіроўваюцца Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь да 10 снежня бягучага года.

Папярэдні разгляд кандыдатур ажыццяўляе камісія Міністэрства культуры з удзелам прадстаўнікоў творчых саюзаў, якая прызначаецца загадам міністра культуры.

Прэміі прысуджаюцца штогод па выніках творчай дзейнасці.

Выплата прэмій ажыццяўляецца за кошт пазабюджэтных сродкаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

# І МІНІМУМ МАКІЯЖУ

*Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, "Стыльцэнтр Супермадэль", фірма "BST" і Саша Варламаў аб'яўляюць пра правядзенне абласных кастынгаў конкурсу "Супермадэль Беларусі-98" у наступных гарадах:*

**Брэст — 9 кастрычніка** 1997 г., 17.00, ДК прафсаюзаў, тэатральна-канцэртная зала, вул. Маскоўская, 275. Дыспетчар: Дзямчук Людміла Мікалаеўна, т. 42-95-16.

**Гомель — 21 кастрычніка** 1997 г., 19.00, дэманстрацыйная зала Дома быту, вул. Інтэрнацыянальная, 13. Дыспетчар: т. 48-66-60.

**Магілёў — 23 кастрычніка** 1997 г., 19.00, Гарадскі цэнтр культуры і вольнага часу, вул. Першамайская, 34. Дыспетчар: Кавалеўская Антаніна Іванаўна, т.31-10-83.

**Віцебск — 28 кастрычніка** 1997 г., 19.00, Тэатр лялек, вул. Пушкіна, 2. Дыспетчар: Сцепанішчава Вера Андрэеўна, т. 36-90-92

**Гродна — 30 кастрычніка** 1997 г., 19.00. Тэатр лялек, вул. Дзяржынскага 1/1. Дыспетчар Лебедзь Людміла Іосіфаўна, т. 44-33-81.

**Мінск — 3 і 4 лістапада** 1997 г., з 14.00 да 20.00, Палац культуры ветэранаў, вул. Я.Купалы, 21. Кантактны тэлефон: 223-84-75.

Запрашаем дзяўчат ва ўзросце ад 13 да 22 гадоў ростам не ніжэй за 165 см і памерам адзення 42, 44 (90-60-90), юнакоў ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў, ростам 178-186 см і памерам адзення 50, 52. Пры сабе мець фатаграфіі. Для дзяўчат — абутак на абцасе, купальны касцюм. Мінімум макіяжу, валасы без лаку.

**Аргкамітэт**







# "ТРЫ ДНІ ПА ГЕРМАНІІ"

Не так даўно ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры адбылася фотавыстава пад назвай "Тры дні па Германіі". Аўтар яе — загадчык аддзела фотаілюстрацый газеты "Культура" Генадзь Жынкоў.

Асабліва ўдзячнымі гледачамі выставы сталі госці з Германіі. Яны былі ўзрушаныя відарысамі знаёмых пейзажаў, архітэктурных збудаванняў, партрэтамі, зафіксаванымі фотамайстрам у нязвыклых ракурсах у гарадах Нямеччыны.

Сёння мы прымеркавалі газетную паласу з некаторымі работамі фотажурналіста, што экспанаваліся на згаданай выставе, да Нацыянальнага дня нямецкага адзінства, які святкаваўся 3 кастрычніка.
















# ВІНАГРАДНАЯ ГРОНКА,

**З 23 па 26 верасня ў Малдове адбыліся Дні культуры Беларусі. У складзе беларускай дэлегацыі, якая выязджала ў Кішынёў і налічвала больш за сто чалавек, апрача артыстаў, спевакоў, музыкантаў, мастакоў быў і карэспандэнт "Культуры". Ніжэй — яго справаздачныя нататкі.**

### ЗАМЕСТ УСТУПУ

...На Цэнтральным кішынёўскім, рынку, ля ўвахода, дзе мітусіліся, перамешваючыся, пакупнікі і прадаўцы, пахі і восы, галасы і гукі, у кутку, як бы самі па сабе, прытуліліся два музыкі. Акардэаніст-віртуоз імправізаваў, шырока разводзячы мяхі. Побач стаяў невысокі сляпы спявак: рэшткі кароткіх сівых валасоў на круглай лысаватай галаве, твар, павернуты да неба, бровы "домікам" і міргаючыя невідушчыя вочы. Лёгенька адбіваючы такт па далоні флейтай-флуерам, заціснутай у правай руцэ, ён спяваў не надта моцным, але прыгожым выразным голасам нешта фальклорнае, з пералівамі і фіярытурамі — і невыносна жалобнае. Ніхто спецыяльна іх не слухаў, пэўна, спевы сталіся звычайным фонам звычайнага жыцця. Магчыма, толькі я, іншаземец, "гультай", які прыйшоў на базар не таргавацца, а выключна па ўражанні, быццам паляўнічы за дзічынай, прыдзірліва сачыў за вулічнымі артыстамі, аж пакуль жалобныя малдаўскія спевы не захапілі цалкам душу, пакуль не падкаціў пад горла ком. Тады я апусціў лей у бляшанку, развярнуўся і шпарка пакрочыў у бок гандлёвых радоў, саромеючыся сваёй сентыментальнасці і разважаючы, як цяжка нашым беларускім артыстам тут выступаць, звярнуць на сябе ўвагу, давесці малдаванам сваю сапраўдную мастацкую годнасць, калі нават на вуліцы можна пачуць такую праніклівую музыку, што бярэ проста за сэрца...

### АФІЦЫЙНА

Прадстаўляць беларускую культуру ў Малдову паехалі дзеячы вельмі розных жанраў, з тым, каб уражанне аб ёй было максімальна поўным. Пералічу толькі некаторых:

— ансамбль народнай музыкі "Свята";



Сустрэча беларускай дэлегацыі была цёплай, нават гарачай.

— вакальная група "Чысты голас";

— Алег Цівуноў і ягоная група;

— ансамбль "Сябры";

— арганіст Канстанцін Шараў, піяніст Андрэй Сікорскі, дуэт цымбалістак — Таццяна Шумакова і Наталля Аруцюнава, актэт духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова з Дзяржаўнага канцэртнага аркестра.

Нацыянальны тэатр оперы паслаў трох салістаў: сапрана Алену Бундзелеву, тэнара Марата Грыгорчыка, баса Алега Мельнікава, і вядомага канцэртмайстра Георгія Каранта. Саюз мастакоў падрыхтаваў выставу графікі з аркушаў Г.Паплаўскага, А. Кашкурэвіча, А.Лось, А.Паслядовіч, У.Басалыгі, В.Славука, К.Селіханава, У.Баранава і інш. Уладзімір Гасцюхін прэзентаваў свой фільм "Батанічны сад", яшчэ адну стужку — "Бег ад смерці" — прадстаўляў акцёр Генадзь Шкуратаў. Купалаўскі тэатр вывозіў "Крывавую Мэры".

Беларускую дэлегацыю ўзначальваў міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. Па яго трапным выразе, Дні культуры былі "вяртаннем запазычанасці", бо ў мінулым годзе Беларусь наведвалі артысты з Малдовы. Аляксандр Уладзіміравіч сустракаўся ў Кішынёве з паслом Беларусі Мікалаем Фёдаравічам Грынёвым, з міністрам культуры Малдовы сп.Чобану і меў таксама незапланаванае спатканне з прэзідэнтам Петру Лучынскім. Гэты факт яскрава сведчыць аб увазе, з якой улады Малдовы ставяцца да кантактаў з Беларуссю. Па словах нашага міністра, прэзідэнт Лучынскі абяцаў падтрымку і садзейнічанне развіццю сувязяў паміж нашымі краінамі, прынамсі ў культурнай сферы. А элементы гэтых сувязяў нараджаліся ўжо падчас перамоў. Напрыклад, на прыёме ў беларускім пасольстве Аляксандр Сасноўскі выказаў ідэю аб правядзенні рэтраспектывы беларускага кіно ў Малдове, малдаўскі міністр яе падтрымаў, а пасол Грынёў паабяцаў тэхнічную дапамогу. На спектаклі "Яўгеній Анегін" у Нацыянальнай оперы падобным чынам нарадзілася ідэя абмену салістамі на працягу тэатральнага сезона, проста ў рабочым парадку.

Падзеі Дзён беларускай культуры падрабязна асвятляліся на старонках малдаўскай прэсы і на Нацыянальным тэлеканале. Канцэрт-адкрыццё трансліраваўся цалкам у прамым эфіры.

### ЛІЧБЫ "ПЛЮС" І ЛІЧБЫ "МІНУС"

За чатыры дні беларускія артысты правялі семнаццаць культурных акцый — канцэртаў, спектакляў і спатканняў. Гэтыя акцыі праходзілі на адзінаццаці пляцоўках. Нашы майстры апрача Кішынёва наведалі з канцэртамі яшчэ пяць буйных населеных пунктаў. Гэта "плюс". А вось "мінусы": за 26 гадзін дарогі многія з артыстаў захварэлі, з высокай тэмпературай працавалі Алег Цівуноў, Алеся Ярмоленка, многія іншыя. З-за хваробы вымушаны быў зусім адмовіцца ад удзелу ў оперы "Яўгеній Анегін" наш тэнар Марат Грыгорчык. Яшчэ лічбы: большасць акцый беларусаў праходзіла пры напаўпустых залах. Выставу графікі наведалі адзінкі, канцэрты ў выдатнай арганнай зале на 600 месцаў праходзілі для 20-30 слухачоў, на гала-канцэрце ў зале Нацыянальнага палаца з 2000 месцаў была занята ледзьве палова. Больш-менш прыцягнулі гледачоў два спектаклі: "Крывавая Мэры" ў памяшканні Рускага тэатра імя Чэхава на 300 месц і заключны канцэрт "Сяброў". Між тым гледачы адзначалі высокія мастацкія здольнасці беларускіх артыстаў сардэчнымі, сапраўды бурнымі апладысментамі, арганіст Канстанцін Шараў, напрыклад, бісіраваў аж шэсць разоў. Самі кішынёўцы, саромеючыся, шчыра шкадавалі, што не многія іх землякі наведалі канцэрты нашых майстроў. Калі я на сваю рызыку правёў міні-апытанне проста ў горадзе, на вуліцах, у парках, то высветлілася, што ніхто з апытаных проста не ведаў аб беларускіх Днях. Хаця афішы — трэба быць справядлівым — былі размешчаны ў адпаведных месцах і ў адпаведныя тэрміны.



"Чысты голас" беларускіх артыстаў.

### ЯК ІМЯ МІНІСТРА?

На тры гадзіны раней урачыстага канцэрта, што пачынаў Дні культуры, адкрылася выстава беларускіх графікаў. 36 твораў трынаццаці мастакоў на чатыры дні пасяліліся ў фае другога паверха Нацыянальнага гістарычнага музея Малдовы — музей мастацтваў цяпер на рамонце, і некаторыя мастацкія выставы разгорнутыя тут, у шэрым будынку XIX стагоддзя былой гарадской гімназіі, з вежачкамі на даху і бронзавай копіяй вядомай па школьных падручніках скульптуры ваўчыцы, што ўскарміла заснавальнікаў Рыма, у двары перад уваходам (як вядома, малдаване лічаць сябе часткай лацінскага свету). Адкрываў выставу, як і амаль усе беларускія імпрэзы, міністр культуры Малдовы сп.Чобану. (Цікава, што калі я запытаўся ў супрацоўніцы музея, якое імя носіць гаспадар малдаўскай культуры, тая разгублена назвала памылкова першае, што прыйшло ў галаву, потым засаромелася, растлумачыла:

# ЛАТГАЛЬСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Даўгаўпілс далёка ад Мінска. Далечыня гэта вялікая, калі мераць адлегласць у кіламетрах. Сумежнасць нашых краін, шмат супольнае мінуўшчыны, усе нашы злыбеды і нядолі ў мінуўшчыне ды і ў сучаснасці міжволі клічуць нас адных да адных.

Вось і зусім нядаўна, 13 — 14 верасня, у Даўгаўпілсе праходзілі Дні беларускай культуры. Але спачатку крыху гісторыі.

Гісторыя беларусаў у Латвіі ведае шмат сцяжынак, якімі хадзілі беларусы з Дзвінска да Мінска і наадварот. Былі гэта і культурнікі, і духоўнікі, і студэнты, бывалі і людзі, якія хацелі проста пацікавіцца жыццём іншым, а ўсё ж такі вельмі нам блізкім, і быццам, знаёмым.

Беларусаў у Латвіі даволі многа, згодна з апошнімі афіцыйнымі звесткамі, больш за 102 тысячы. Да вайны было таксама нямала, каля 70 тысяч. У адрозненне ад другіх нацыянальных меншасцяў беларусы з'яўляюцца не староннім элементам, не народам, які прыйшоў з чужых краін, а спакон веку жыўшым тут, асабліва ў Латгаліі.

Сёння ў Латгаліі (Усходняя Латвія) пражываюць 68 тысяч этнічных беларусаў. Каля 1000 гадоў таму продкі беларусаў і латышоў вялі між сабой актыўны гандаль, карыстаючыся ракой Дзвіной.

І сёння, у жыцці сучасным, беларусы і латышы з'яўляюцца добрымі суседзямі, маюць добрыя стасункі ў самых розных галінах жыцця.

Дні культуры Беларусі ў Даўгаўпілсе ладзіліся супольна з гарадской Думай па ініцыятыве генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь і культурна-асветнага таварыства "Уздым". Свята гэта планавалася ў гонар 75-гадовага юбілею Дзяржаўнай беларускай гімназіі, якая працавала тут з 1922 па 1935 год.

На свята беларускай культуры былі запрошаны шматлікія госці з Рыгі і Вісагінаса, Браслава і Краславы, Мінска і Віцебска, сярод якіх старшыня Віцебскага гарвыканкама Уладзімір Пелагейка, старшыня Віцебскага гарсавета Ларыса Аленская, загадчык аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама Віктар Кібісаў, консул Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску Крузе Арманд і многія іншыя.

Беларускае мастацтва на свяце прадстаўлялі ансамбль народнай музыкі, песні і танца "Талака" Віцебскай абласной філармоніі, а таксама мастацкі калектыў з Браслава, якія выступілі на шматлікіх пляцоўках перад жыхарамі горада з цікавай і разнастайнай праграмай.

Падзеяй не толькі для аматараў выяўленчага мастацтва, але ўвогуле для ўсяго горада стала святочная выстава работ аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", якая адбылася ў краязнаўчым музеі. На выставе былі прадстаўлены работы Васіля Малышчыца, Вячкі Целеша, Галіны Зашчырынскай. Хочацца зазначыць, што поле дзейнасці і працы мастакоў не абмяжоўваецца нацыянальнымі рамкамі, а мае вольны падыход у творчых пошуках і сродках мастацкага выяўлення. Мастакі працуюць у розных відах выяўленчага мастацтва, у розных тэхніках, мастацкіх стылях і накірунках, са сваім адметным почыркам.

Адной з найбольш значных падзей Дзён культуры была, безумоўна, навукова-практычная канферэнцыя "Беларусы ў Латвіі. 75 гадоў Дзяржаўнай Даўгаўпілскай гімназіі". У гэты дзень на будынку, дзе працавала гімназія, была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка.

Удзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі, а сярод іх Ілга Апіня, прафесар Латвійскай Акадэміі навук, Сяргей Панізнік, беларускі паэт, старшыня таварыства "Беларусь — Латвія", Ірына Сахарава, дачка былога дырэктара гімназіі, шмат іншых выступоўцаў зазначылі, якую вялікую работу праводзілі выкладчыкі гімназіі дзеля абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў. Некалькі фактаў. Дзякуючы дзейнасці такіх беларусаў, як Сяргей Сахараў, Кастусь Езавітаў, Іван Краскоўскі, Уладзімір Пігулеўскі, многіх іншых у Латвіі пачалі адкрывацца беларускія гімназіі, школы, настаўніцкія курсы і г.д., пачалі выходзіць беларускія газеты і часопісы. У 1921 годзе ў Дзвінску было створана культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына". Яго сябры, пры дапамозе Яна Райніса, дабіліся адкрыцця пры Міністэрстве адукацыі Беларускага аддзела, які фінансаваў беларускія школы і гімназіі.

Галоўным унутраным стрыжнем вялікай працы беларускай інтэлігенцыі Латвіі ў 20-я гады была вера ў будучыню беларускага народа, у магчымасць развіцця беларускай культуры за межамі Айчыны.

Свята дзён беларускай культуры ў Даўгаўпілсе адбылося на высокім арганізацыйным і мастацкім узроўні. Гэта значная падзея ў жыцці горада прыцягнула ўвагу не толькі яго жыхароў, але і гасцей літаральна з усёй Прыбалтыкі. Поўныя залы на кожным з канцэртаў — сведчанне непадробнай цікавасці жыхароў Латвіі да беларускай культуры.

Сёння перспектывы беларускай супольнасці ў Латвіі ўяўляюцца мне светлымі, калі ўлічыць, што яна мае свае карані ў Латгаліі, анклавы, дзе яна можа наладзіць сваё культурнае жыццё. Беларуская інтэлігенцыя, актывісты суполак "Уздым", "Прамень", "Світанак", працуюць дзеля таго, каб беларусы Латвіі здолелі набыць сваё нацыянальнае аблічча, сведчанне гэтаму — свята, якое адбылося. Дні культуры сталі яшчэ адной яркай старонкай ва ўмацаванні кантактаў дзвюх краін-суседак.

**Любоў БАЛАЎНЁВА,**
**намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур па сувязях з беларусамі замежжа.**

Нядаўна беларуская грамадскасць Латвіі адзначала 75-ю гадавіну з дня адкрыцця першай Дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Дзвінску (сучасны Даўгаўпілс). У гісторыі гімназіі, лёсе многіх яе вучняў вялікую ролю адыграў таленавіты педагог, асветнік, вядомы беларускі фалькларыст і этнолаг, актыўны грамадскі і культурны дзеяч Сяргей Пятровіч Сахараў (1880 — 1954 гг.).

Кіраўнікі беларускага адраджэння ў Латвіі добра разумелі, што, каб не растварыцца ў іншаэтнічным асяроддзі, не згубіць свайго нацыянальнага аблічча, беларусам неабходна было ўсвядоміць сябе самастойным народам, які мае ўласныя глыбокія карані, цікавую гераічную гісторыю, старажытную культуру. Але дамагчыся гэтага ў тых умовах было даволі няпроста з прычыны слабай адукаванасці беларускага жыхарства, асноўная маса якога складалася з малапісьменных ці ўвогуле непісьменных сялян ды рабочых. Таму галоўнай задачай, што паўстала перад беларускім культурна-адраджэнскім рухам у Латвіі, было далейшае пашырэнне сеткі ўжо існуючых пачатковых агульнаадукацыйных школ, а таксама стварэнне ўласнай сярэдняй школы, якая б стала своеасаблівым падмуркам у падрыхтоўцы высокаадукаванай, нацыянальна-свядомай маладой беларускай інтэлігенцыі, здольный прыняць эстафе-

ЁСЦЬ КАНТАКТ!

# ШТО МАРЫЦЬ ПРА ЕЎРАПЕЙСКІ СТОЛ

"Міністры ў нас часта змяняюцца". Між тым Генадзь Чобану далёка не выпадковая фігура ў малдаўскай культуры — кампазітар, шматгадовы старшыня Саюза кампазітараў, дырэктар вядомага міжнароднага фестывалю сучаснай музыкі і г.д. Менавіта ён вымавіў упершыню словы аб неабходнасці "дыфузіі культур", словы, якія потым многа разоў у розных варыянтах паўтараліся на працягу Дзён і якія маглі б гучаць банальнасцю, калі б не ілюстраваліся пастаянна кожнай акцыяй беларускага боку і кожным водгукам з боку малдаўскага. Выпадкова ці па разліку, але госці-беларусы напоўна дагадзілі музыканту-міністру, калі дапоўнілі сваю выставу выступленнем вакальнага ансамбля "Чысты голас".

### ЗДАРОВЫ НАЦЫЯНАЛІЗМ — ГЭТА ЗДАРОВА

Сучасная гісторыя малдаўскай дзяржаўнасці звязаная з трыма датамі: 31 жніўня 1989 года нарадзілася дзяржаўная мова —малдаўская перайшла з кірыліцы на лацініцу і стала ... румынскай. 27 красавіка 90-га Малдавія зацвердзіла блакітна-жоўта-чырвоны трыкалор у якасці сцяга. А 23 чэрвеня абвясціла сябе незалежнай суверэннай дзяржавай. Праз два месяцы на галоўнай плошчы Кішынёва "Пяца марій адунэрь нацыяналь" ("Плац нацыянальнага сходу") быў усталяваны бронзавы помнік Штэфану Вялікаму. Гэты гаспадар, што правіў у XV стагоддзі, лічыцца заснавальнікам малдаўскай дзяржавы, аб"яднальнікам земляў і плямёнаў, будаўніком манастыроў і гарадоў. Помнік яму быў створаны яшчэ ў 1928 годзе, з 1940 па 1942 і з 1944 па 1945 гады знаходзіўся ў "эміграцыі" ў Румыніі, пасля, страціўшы крыж, меч і гістарычныя надпісы, стаяў сціпла недзе ў глыбіні сквера. Цяпер, у першапачатковым выглядзе, узвышаецца над цэнтрам горада. Гісторыя помніка як адлюстраванне цяжкага шляху да незалежнасці напісана на двух металічных дошках, зразумела, на румынскай. Больш гадзіны спатрэбілася мне, каб знайсці таго, хто мог дакладна яе перакласці. Ніхто не адмаўляўся дапамагчы, але па шматлікіх памылках і цяжкасцях чытання я зразумеў, што большасць малдаван усё яшчэ вельмі слаба ведаюць новую родную мову. (Кажуць, адразу па ўвядзенні лацініцы палова народа стала непісьменнай!) Дарэчы, мае спробы даведацца, што ж за важныя гістарычныя надпісы мае сам помнік, скончыліся поўным фіяска — старадаўняя румынская лексіка наогул незразумелая шараговым малдаванам.

Між тым, калі на сустрэчах з афіцыйнымі асобамі я дапытваўся, ці хутка Малдова ўвойдзе ў склад Румыніі, мне з усмешкай адказвалі, што імкненне да ўмацавання сувязяў з Румыніяй зусім не тоеснае імкненню да страты суверэнітэту. Цікава, што такую самую ўсмешку магло б выклікаць, напэўна, уяўленне малдаван аб сутнасці інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй. Раблю гэтую выснову па малым, але вельмі паказальным факце: эмблема Дзён беларускай культуры змяшчала надпісы на двух мовах: зразумела, на румынскай і ... рускай! Відаць, малдаване ўспрымаюць нашыя адносіны з Расіяй таксама не вельмі дакладна...

### ЗАМЕСТ ЗАКАНЧЭННЯ

"Вінаградная гронка на карце Еўропы" — так называецца прэзентацыйны тэкст аб Малдове ў даведніку, які ляжыць у кожным нумары гатэля "Нацыяналь" (былы "Інтурыст") разам з пералікам паслуг (на румынскай) і памяткай аб дзеяннях у выпадку землятрусу (на трох мовах). Малдаване вельмі любяць падкрэсліць сваё імкненне (ці прыналежнасць) да Еўропы, маючы на ўвазе не геаграфічны сэнс слова, а перш-наперш палітычны і духоўны. "Сваю будучыню мы звязваем з Захадам!" — словы аднаго з сябраў кабінета міністраў. Між тым, на маю думку, шлях да гэтай самай "духоўнай Еўропы" яшчэ доўгі: праз уздым жыццёвага ўзроўню, праз асэнсаванне ўласнага месца ў свеце, праз выкараненне "саўковасці" на ўзроўнях ад бытавога да дзелавога і палітычнага... Сёння нават у


*На адкрыцці выставы беларускай графікі, злева направа: Генадзь Буралкін, старшыня Саюза мастакоў Беларусі, Генадзь Чобану, міністр культуры Малдовы, Аляксандр Сасноўскі, міністр культуры Беларусі.*


*Анатоль Ярмоленка, які ў Кішынёве распачаў серыю канцэртаў прымеркаваную да свайго 50-годдзя, прымае віншаванні ад Міхал Доўганя, заснавальніка гурта "Нарок", які існуе ўжо 30 гадоў.*

самым прэстыжным з кішынёўскіх гатэляў няма гарачай вады — стаяць электрычныя награвальнікі з не надта высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння. Галоўная вуліца сталіцы — былы праспект Леніна, цяпер бульвар Штэфан чэл Марэ, Штэфана Вялікага — уражвае ўшчэнт разбітымі засмечанымі тратуарамі. Жабракоў можна ўбачыць і ў Мінску, але тут, у Кішынёве, спаткаеш іх, прыніжана стаячых на каленях у пыле — напэўна ж не ад вытанчанай жабрачай "прафесійнасці". Вакол рынку і побач з вялікімі крамамі цэлы дзень стаяць "пачаткоўцы-чаўнакі", прапануючы з рук танны трыкатаж і іншае адзенне з Турцыі і Румыніі, якое ўжо ніхто не купляе. Сустракаюцца дылетанты-прадаўцы і іншага кшталту, бо заработную плату на прадпрыемствах тут часам плоцяць "натурай" — каўбасамі, віном, дзежкамі... У скверы перад гатэлем "Малдова" побач з арганнай залай — кішынёўскі "мастацкі пятачок", дзе разам з кічавымі пейзажыкамі ці драўлянымі амулетамі можна набыць "флуер" — флейту, "най" — флейту Пана, "акарыну" — гліняную флейту. Прадаюць іх і вырабляюць былыя музыканты, што страцілі працу. Калі вы з такім разгаворыцеся, ён з задавальненнем успомніць сваё майстэрства і выканае нешта віртуознае нават на просценькім, на турыстычны густ, інструменце ўласнай вытворчасці. Наогул твары прахожых не надта вясёлыя, гэта асабліва кідаецца ў вочы тут, у атмасферы нібы бестурботнага поўдня. Не дзіўна, што многія настальгічна ўспамінаюць гады савецкай улады, калі тут быў "райскі закуток". Бабулька-капельдзінерка ў Нацыянальнай оперы, даведаўшыся, што я з Беларусі, ледзь не кінулася са слязамі да мяне ў абдымкі: "Хай толькі ваш Лукашэнка трымаецца, дай Бог яму здароўя! Хай ён дакажа *ім* усім, што сацыялізм лепш за *іхнюю* дэмакратыю!.."

На развітанне беларусы сказалі гасцінным гаспадарам "Ла рэвэдэрэ!" ("Да пабачэння") — і чулі ў адказ "Пекурынд! — Да хуткага спаткання!" Не ведаю, ці адбудуцца новыя спатканні беларусаў і малдаван ужо ў Еўропе, з якой у першых адносіны складаныя, нягледзячы на геаграфію, і ў якую другія прагнуць быць залічанымі на любых умовах, але што спатканні будуць — я ўпэўнены. Яны павінны адбыцца, бо мы — усё яшчэ цікавыя адно аднаму.

**Ігар КЛОКАЎ, наш спецкар. Фота аўтара.**
*Мінск — Кішынёў — Мінск*

# БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ


*Канферэнцыя беларускіх настаўнікаў Рыгі. 1930. Сядзіць крайні справа — С.П.Сахараў.*

ту ў справе нацыянальна-культурнага адраджэння латышскіх беларусаў. Зыходзячы з гэтага, было вырашана адкрыць першыя беларускія гімназіі ў месцах кампактнага пражывання беларускага насельніцтва — у Латгаліі. Так, ужо вясной 1922 года беларусы атрымалі дазвол Латвійскага ўрада на стварэнне такіх гімназій у Дзвінску і Люцыне.

Дзвінская дзяржаўная беларуская гімназія (1922 — 1938 гг.) была заснавана з ініцыятывы Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі, кіраўніком якога ў той час быў Сяргей Пятровіч Сахараў, культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына" — галоўнага каардынацыйнага цэнтра ўсяго беларускага культурна-асветніцкага руху ў Латвіі і пры непасрэднай дапамозе і падтрымцы з боку шчырага прыхільніка беларусаў Яна Райніса. Арганізатарам і першым яе дырэктарам быў І.І.Краскоўскі, грамадска-палітычны і культурны дзеяч, педагог, які прыехаў з Літвы па запрашэнні Рады "Бацькаўшчына".

У аснову навучальнага працэсу была пакладзена праграма, распрацаваная для сярэдніх школ Латвіі гуманітарнага профілю, але значна пашыраная за кошт дысцыплін, непасрэдна звязаных з беларушчынай.

Для больш поўнага і гарманічнага развіцця моладзі ў Дзвінскай беларускай гімназіі разам з агульнаадукацыйнымі прадметамі выкладаліся асновы рамёстваў, вядзенне хатняй гаспадаркі. У вольны ад заняткаў час у распараджэнні гімназістаў меліся добра абсталяваныя майстэрні: слясарная і сталярная для хлапцоў і швачная і ткацкая для дзяўчат. Вялікай папулярнасцю сярод вучняў карысталіся разнастайныя гурткі па інтарэсах: харавы, тэатральны, харэаграфічны, спартыўны, фатаграфічны і інш. Пры гімназіі быў створаны скаўцкі атрад.

Сацыяльны і нацыянальны склад Дзвінскай гімназіі быў амаль аднародны. Тут набывалі веды, рыхтаваліся да самастойнага жыцця пераважна беларускія дзеці з малазабяспечаных сем'яў з розных куткоў Латвіі і Ілукшчыны. Але вучыцца ў нацыянальнай беларускай школе мелі жаданне і дзеці іншых нацыянальнасцей.

На момант кіравання С.П.Сахаравым Дзвінскай беларускай гімназіяй, а ён быў яе нязменным кіраўніком на працягу 1925 — 1932 гг., яна ўяўляла сабой адзіную на ўсю Латвію сярэднюю школу для дзяцей-беларусаў, бо беларуская гімназія ў Люцыне была зачынена ў жніўні 1925 года.

Пры гімназіі існаваў інтэрнат для навучэнцаў з аддаленых месцаў Латгаліі і Ілукшчыны. Ён утрымліваўся, у асноўным, на грашовую дапамогу з боку Беларускага аддзела і ахвяраванні настаўнікаў, у першую чаргу, дырэктара С.П.Сахарава. Сродкі, што выдзяляла дзяржава на развіццё гімназіі, былі вельмі абмежаванымі.

Праца ў гімназіі спрыяла развіццю шырокага творчага патэнцыялу Сахарава-педагога. Пад яго кіраўніцтвам гэтая навучальная ўстанова ператварылася ў своеасаблівы цэнтр беларускага духоўнага адраджэння. Шматгранны талент С.П.Сахарава, яго лепшыя чалавечыя якасці: дабрыня, мудрасць, справядлівасць, памяркоўнасць, як магніт, прыцягвалі гімназістаў, настаўнікаў і ўсіх прагрэсіўна настроеных беларусаў, і паступова ўтваралася шырокае кола аднадумцаў, барацьбітоў за беларускае культурнае адраджэнне ў Латвіі. Менавіта пад кіраўніцтвам С.П.Сахарава фальклорна-этнаграфічная збіральніцкая праца ў Дзвінскай гімназіі, распачатая яе дырэктарам І.Краскоўскім, П.Мядзёлкай-Грыб і іншымі настаўнікамі, узнялася на вышэйшы навуковы ўзровень, набыла сістэмны характар. Пры значнай падтрымцы з боку жонкі Вольгі Фёдараўны, педагога і пісьменніцы, дачкі Галіны разам са сваімі вучнямі Сахараў сабраў у месцах з амаль суцэльным беларускім насельніцтвам вялікую калекцыю вуснапаэтычных твораў, а таксама прадметаў матэрыяльнай культуры. Вынікі фальклорна-этнаграфічных экспедыцый з'явіліся яшчэ адным сведчаннем існавання ў Латвіі самастойнага этнасу — беларусаў, са сваёй мовай, традыцыямі, культурай. Сабраныя этнаграфічныя матэрыялы захоўваліся ў гімназічным музеі, што быў створаны дзякуючы намаганням дырэктара гімназіі.

Фальклорныя запісы змяшчаліся на старонках рукапіснага часопіса Дзвінскай гімназіі "Школьная праца". Акрамя "Школьнай працы" гімназія пад кіраўніцтвам С.Сахарава выпускала таксама рукапісныя часопісы "Альманах", "Шлях з цьмы", "Пралеска", "Зорка" і інш., у якіх публікаваліся літаратурныя спробы вучняў гімназіі.

Дзейнасць гімназіі пад кіраўніцтвам С.П.Сахарава атрымала шырокі рэзананс па ўсёй Латвіі і нават за яе межамі. Яна зрабілася своеасаблівым культурным асяродкам латышскіх беларусаў. Але значныя поспехі беларускай меншасці на ніве нацыянальна-культурнага адраджэння напалохалі рэакцыйныя сілы ў Латвіі. Нядобразычліўцы разумелі, што, пазбавіўшы беларусаў уласнай нацыянальнай школы, яны тым самым пазбавяць іх і найгалоўнейшай крыніцы адраджэння нацыянальнай самасвядомасці. Таму на пачатку 30-х гадоў у Латвіі разгарнуўся шырокамаштабны наступ на беларускі асветніцкі рух і, у першую чаргу, на беларускія школы і гімназію. У 1932 годзе ўрадам Латвійскай рэспублікі было прынята рашэнне аб частковым закрыцці Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, а яе дырэктар С.П.Сахараў быў у хуткім часе адпраўлены ў адстаўку на ўзросце яшчэ далёкім ад пенсійнага. Так сумна скончылася нязменнае сямігадовае кіраўніцтва С.П.Сахаравым Дзвінскай беларускай гімназіяй.

**Марына ЛІС**

№ 39 4 — 10 кастрычніка 1997.

BEATI POSSIDENTES







# СУБОТА





# ПОЛАЦК





**Тут 27 верасня ў Крыжаўзвіжанскім саборы Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра адбылася ўрачыстая літургія з нагоды вяртання ўзноўленага напрыканцы дваццатага стагоддзя Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Beati possidentes — шчаслівыя тыя, хто валодае... Аб гэтым фотарэпартаж Генадзя ЖЫНКОВА.**





# ШОСТАЯ ЕЎРАПЕЙСКАЯ, АЛЕ НЕ АПОШНЯЯ

З 22 па 27 верасня на базе Рэспубліканскага спартыўнага комплексу "Раўбічы" прайшла VI Еўрапейская канферэнцыя Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці IOV "Народная культура ва ўмовах сучасных перамен у розных рэгіёнах Еўропы". Арганізатарамі яе выступілі таксама Міністэрства культуры Беларусі і Беларускі інстытут праблем культуры. Канферэнцыя атрымалася вельмі прадстаўнічай: 57 удзельнікаў з 17 краін свету.

Як адзначыў старшыня Камісіі па навуцы IOV Мечыслаў Марчук, вельмі важна, што Беларусь, якая перажыла небяспечны для беларускай культуры Чарнобыльскі катаклізм, змагла дапамагчы ў арганізацыі і наогул належным чынам правесці канферэнцыю.

Сапраўды, акрамя паседжанняў для ўдзельнікаў канферэнцыі было падрыхтавана шмат цікавых мерапрыемстваў: знаёмства з выставамі беларускага народнага касцюма, беларускіх народных музычных інструментаў, твораў народных майстроў. А таксама наведванне Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Строчыцы, Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ пры Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, Музея матэрыяльнай культуры "Дудуткі" ў Пухавіцкім раёне. І канечне, вельмі цікавае выступленне ансамбля "Крупіцкія музыкі".

Італьянец Джавані Батыста Музіў, які наведаў Беларусь упершыню, прызнаўся, што не чакаў сустрэцца з такой прыгажосцю. Падчас усіх культурных мерапрыемстваў ён не выпускаў з рук фотаапарата.

А самае галоўнае дасягненне канферэнцыі, па ўсеагульным прызнанні, — цёплыя сяброўскія зносіны і добразычлівая атмасфера.

**М.Б.**

# ЛАЎРОВЫ ВЯНОК ЯК СІМВАЛ ЛЮБОВІ

Відаць, ніхто не будзе спрачацца з тым, што ўсім нам пашанцавала ў адным: мы жылі ў адзін час з найвялікшым паэтам нашай сучаснасці — Максімам Танкам. Да яго творчасці — вытанчанай і заглыблена-інтэлектуальнай — звяртаюцца сучаснікі, і будзе звяртацца яшчэ не адно пакаленне, каб знайсці адказ на адвечныя пытанні, якія заўсёды хвалявалі і будуць хваляваць чалавецтва.

Акурат 20 верасня непадалёк ад вёскі Пількаўшчына, на радзіме паэта быў адкрыты помнік: два крыжы злучыў паміж сабою лаўровы вянок як сімвал любові, вернасці двух людзей: паэта і яго жонкі Любові Скурко. Аўтары помніка: архітэктар Ігар Марозаў і скульптар Анатоль Арцімовіч.

На адкрыцці помніка выступалі намеснік Міністра культуры Юрый Цвяткоў, паэты Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Алесь Пісьмянкоў, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч і іншыя. Увечары таго ж дня ў Мядзелі адбылася вечарына, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.

**А.Р.**

# ІДЗЕ СУСВЕТНЫ КАНГРЭС ЦЫМБАЛІСТАЎ

У Магілёве 1 кастрычніка распачаўся Сусветны кангрэс цымбалістаў. У праграме кангрэса — выступленні прадстаўнікоў Аўстраліі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Славакіі, ЗША, Беларусі і іншых краін свету. Форум, што будзе доўжыцца да 4 кастрычніка, — пацвярджэнне таму, што сусветнае цымбальнае майстэрства дасягнула прафесійнага акадэмічнага ўзроўню. Лаўрэаты традыцыйных фестываляў "Звіняць цымбалы і гармонік" іграюць у Магілёве поруч з сусветнымі майстрамі-цымбалістамі. Дарэчы, на чарговым кангрэсе прысутнічае прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі Вікторыя Херэнчар. Славутая венгерская артыстка — удзельніца ранейшых фестываляў цымбалістаў, што праходзілі ў нас у Мінску і Магілёве, а таксама апошняга — "Звіняць цымбалы і гармонік", што адбыўся летам у Паставах.

**А.Р.**

# ЯНЫ АДМАЎЛЯЛІ БЯЗДУШНУЮ ФІКСАЦЫЮ

Бываюць часы, калі на дрэве нацыянальнага мастацтва раптоўна, нібыта пупышкі вясной, з'яўляюцца зялёныя парасткі новага. Такім часам, мяркую, былі ў нас, на Беларусі, 60—70-я гады. Потым з'явіліся іхнія духоўныя нашчадкі (цяпер іх называюць "сярэднім" пакаленнем), імёны якіх сёння ў асяродку творчай інтэлігенцыі шырока вядомыя.

Усе гэтыя мастакі вылучаліся абвостраным духоўным зрокам, яны адмаўлялі бяздумную фіксацыю, "ідэйна-тэматычныя" рамкі, што спускаліся "зверху". Для іх былі характэрныя разняволенасць і філасафічнасць мыслення, імкненне зразумець маральныя і эстэтычныя асновы быцця. У іх творчасці ўзнікаў сінтэз новых мастацкіх канцэпцый і нацыянальных традыцый. Гэтыя мастакі былі схільныя выяўляць веліч непрыкметнага і хараство простага, адкрываючы складаны, шматколерны свет нашага часу, напоўнены драмамі і веліччу, супярэчнасцямі і надзеямі, гістарычнай памяццю і святлом нязгаснай любові да роднай зямлі.

Г.Скрыпнічэнка. "Ад Георгія да 40-годдзя Мікалая".

Магчыма, менавіта гэтая духоўная аура і з'яднала такіх розных мастакоў, як па ўзросце, так і па творчай накіраванасці, у адзіны калектыў, які атрымаў назву "Беларуская Акадэмія выяўленчага мастацтва".

Меў рацыю прэзідэнт Акадэміі Фелікс Янушкевіч, калі казаў: "Аб'яднанне творчых індывідуальнасцяў магчымае толькі на прынцыпах прафесійнага ўдасканалення дадзенага Богам таленту і трывалых маральных якасцей іх носьбітаў, прасякнутых хараством роднай зямлі, кроўна знітаваных з нацыянальнымі мастацкімі традыцыямі. Толькі на такой жыццядайнай глебе ўзрастае дрэва лучнасці майстроў розных пакаленняў".

Леанід Шчамялёў, Гаўрыла Вашчанка, Віктар Альшэўскі, Уладзімір Тоўсцік, Уладзімір Зінкевіч, Рыгор Сітніца, Валерый Славук, Уладзімір Вішнеўскі, Уладзімір Савіч, Леў Алімаў і іншыя — больш за 20 чалавек аб'ядноўвае сёння Акадэмія. За два гады яе існавання стала зразумелым: Акадэмія трывала сцвердзіла сябе ў мастацкім жыцці краіны, пра што сведчаць бліскучыя групавыя і персанальныя выставы яе сябраў, што атрымалі шырокі грамадскі рэзананс.



Ул.Панцялееў. "Збіраючы зоркі".

Сённяшняя, другая, выстава твораў акадэмікаў БелАВМ, разгорнутая ў Палацы мастацтва, прысвечана памяці акадэміка жывапісу Мікалая Селешчука, аднаго з самых буйных прадстаўнікоў сучаснага жывапісу. Адначасова выстава з'яўляецца нібыта справаздачай мастакоў за два мінулыя гады, таму тут прадстаўлены пераважна новыя творы. З'явіліся і два новыя акадэмікі жывапісу: Анатоль Бараноўскі і Георгій Скрыпнічэнка.



Г.Вашчанка. "Песня восені".



Л.Шчамялёў. "Апошнія дні лютага".

Галоўнае, што неабходна адзначыць у творчасці акадэмікаў, гэта адмаўленне ад стылістычных "гульняў", што сталі звычайнай з'явай на выставах апошніх гадоў, і ад непрыхаванага цытавання, жадання здзівіць. Наадварот, пры някідкіх, на першы погляд, але добра вывераных выяўленча-пластычных сродках, ідзе праграмны зварот да складаных праблем быцця чалавека — ягоных няпростых узаемасувязей з прыродай, да гісторыі свайго народа, да маральных пошукаў часу...

**Б.К.**

# ПОЛЬСКАЯ АРХЕАЛОГІЯ Ў СВЕЦЕ

Археалогія здаўна бударажыла фантазію людзей, прад'яўляючы ім, здавалася б, незваротна страчаныя вобразы мінулага. Выяўленні ўсыпальні Тутанхамона ў Егіпце, раскопкі гамераўскай Трої, праведзеныя Шліманам, і раскопкі засыпаных Пампеі пры вывяржэнні Везувія — гэтыя і дзесяткі іншых адкрыццяў узбагацілі сусветную культуру. Нарэшце, згадайце самі, колькі разоў у час розных падарожжаў па сваёй краіне, па кантыненце, па свеце вам траплялі на вочы старажытныя рэчы, вымкнутыя з забыцця археолагамі?

Між тым археалогія не ведае стомы: час ад часу адбываюцца новыя дзіўныя адкрыцці, інфармацыю аб якіх шырокая грамадскасць атрымлівае праз перыядычны друк. У гэтых падзеях значны ўдзел бяруць і палякі, аб чым, на жаль, пішацца даволі рэдка.



Адзін з экспанатаў выставы.

Для таго каб азнаёміць беларускіх аматараў даўніны з дасягненнямі польскай археалогіі, у будынку гістарычнага факультэта БДУ пры актыўным удзеле кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін і Польскага інстытута ў Мінску адкрылася фотавыстава "Старыя цывілізацыі і новыя адкрыцці. Польская археалогія ў свеце (1989-97)". Перад прысутнымі журналістамі і студэнтамі выступіў дырэктар Польскага інстытута Тамаш Нігодзіш, які распавёў пра значнасць дадзенай экспазіцыі ў кантэксце сённяшніх рэалій. Загадчык кафедры археалогіі Аляксандр Егарэйчанка зазначыў, што поспехі польскай археалагічнай школы добра вядомыя спецыялістам Беларусі. Выстава, якая экспануецца ў БДУ, дэманструе дасягненні спецыялістаў Цэнтра археалогіі Міжземнамор'я Варшаўскага універсітэта за межамі Польшчы. Гэты накірунак дзейнасці найменш нам вядомы, але дзякуючы выставе, арганізавай Польскім інстытутам у Мінску, мы атрымалі цудоўную магчымасць з ім азнаёміцца.

**Зміцер ВОЛКАЎ**




АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫТАЖ

# КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

***"Шаноўная рэдакцыя! Вашыя астрапсіхалагічныя прагнозы натхнілі мяне на гэты тэкст. Магчыма, ён вам прыдасца... Эла Дружкова."***

***Так, спадарыня Эла, ваш матэрыял нам "прыдаўся". І таму мы яго друкуем.***




Першага траўня гэтага года Віцебск наведаў вядомы астролаг Павел Глоба. Яго прадказанне патрапіла б любому гораду: быццам гораду на Дзвіне прадбачыцца стаць сталіцай Беларусі ў 2008 — 2009 гадах. Дарэчы, гэта яму не ўпершыню: у 1796 годзе ён ужо быў цэнтрам Беларускай губерні. Гарады, як і людзі, маюць свой характар і лёс. Вядома, што Віцебск належыць да сузор'я Авена, першага знака Задыяка. Пад ім нараджаюцца першапраходцы, ім уласцівы дух лідэра і моцны творчы патэнцыял.

Напрыклад, гэтаму вельмі паспрыяла сітуацыя, што склалася ў Віцебску ў 20-я гады нашага стагоддзя. Гэты час даследчыкі назвалі "Віцебскі рэнесанс".

Дзякуючы пецярбургскаму музыканту, дырыжору Марыінскага тэатра Мікалаю Малько стала працаваць першая ў Беларусі кансерваторыя ў 1919 годзе. Згадваецца імя нашага земляка Івана Салярцінскага, у той час 17-гадовага паліглота. Зараз яго імем названа музыкальная вучэльня. Таксама ў Віцебску даўнія тэатральныя традыцыі. Першы гарадскі тэатр узнік тут пры актыўных намаганнях генерал-губернатара Галіцына і яго жонкі ў 1845 годзе. У свой час у ім працаваў акцёр, які адзін з першых атрымаў званне народнага артыста РСФСР — Пельтцэр, бацька вядомай артысткі "Ленкома" Таццяны Пельтцэр.

Упершыню ў Беларусі вобраз лідэра бальшавікоў У.І.Леніна стварыў Павел Малчанаў на віцебскай сцэне, у тэатры БДТ-2 у 1928 годзе. Адна з яскравых падзей тэатральнага жыцця Віцебска — стварэнне першага ў Савецкай Расіі Тэатра рэвалюцыйнай сатыры. Сваім сімвалам тэатр выбраў звычайную мятлу. Неабходныя рысы для акцёраў гэтага тэатра — талент імправізацыі і фізічная вынослівасць, бо спектаклі ішлі без сцэнічных падмосткаў, амаль што сярод гледачоў, або на трамвайнай пляцоўцы, у любое надвор'е.

На жаль, тэатр хутка развалўся, і нам засталіся толькі ўспаміны і тыя мясціны, што дапамагаюць гэтым успамінам: напрыклад, Прывакзальная плошча, на якой адбылося першае прадстаўленне маладога тэатра ў траўні 1919 года перад чырвонаармейцамі.

Дарэчы, у Віцебску, які мае 7 плошчаў, знаходзіцца адна з самых вялікіх у былым Савецкім Саюзе — плошча Перамогі (380 х190 м, або 16,7 га). А вось на плошчы Свабоды, што з'яўляецца сэрцам Віцебска, пры раскопках была знойдзена першая ў Беларусі берасцяная грамата XII — XIII стст. Гэта прыватны ліст купца Сцяпана да Няжылы: "Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта на 6 грывен. А калі чаго не прадаў, то прышлі ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то будзь ласкаў — купі мне жыта".

Побач з плошчай у пачатку 80-х гадоў стаяў дом XVIII стагоддзя з прыгожай чырвонай цэглы. У ім жыў таленавіты фатограф і вынаходнік Сігізмунд Антонавіч Юркоўскі. Менавіта ён у 1881 годзе зрабіў першы ў свеце шторны затвор для фотакамеры. Свае адкрыцці ён прапанаваў Расійскаму тэхнічнаму таварыству. Але ж навінку не прызналі, адмовіўшыся наладзіць выпуск затвораў у Расіі (няма прарока ў сваёй Айчыне). Тады з вялікім задавальненнем англійскія фірмы "Герц" і "Гартан Пікар" згадзіліся выпускаць фотаапараты са шторным затворам, а пазней гэта ж зрабіла і нямецкая фірма.

Недалёка ад дома Юркоўскага напрыканцы XIX стагоддзя пры дапамозе бельгійскага акцыянернага таварыства была пабудавана электрастанцыя магутнасцю 250 кВт. А ў 1898 годзе быў пушчаны першы трамвай у Беларусі і адзін з першых у Савецкай Расіі. Спачатку было толькі два маршруты: плошчы Саборная (Свабоды) — Смаленская (Леніна) і плошча Саборная — да Прывакзальнай у Задзвінні.

Гэта частка горада, Задзвінне, да XVII стагоддзя Віцебску не належала і называлася Русь, ці Рускі пасад. Гэты раён можа ганарыцца адной з самых стылёвых і папулярных у гараджан — вуліцай Кірава. Яна стала першым "баявым выпрабаваннем" для маладых архітэктараў, мужа і жонкі Данілавых з Кіева.

Падчас вайны гэта вуліца была знішчана дашчэнту, як і ўвесь шматпакутны Віцебск. Яшчэ ў 1951 годзе людзі жылі ў зямлянках, асабліва па берагах Дзвіны, паўсюль былі доты, зяючыя пустымі вачніцамі. Як Фенікс адрадзіўся Віцебск дзякуючы нястомным рукам віцябчан. Яны заўсёды вызначаліся працавітасцю. Яшчэ ў 1919 годзе 19 чэрвеня віцябчане першымі ў Беларусі выйшлі на камуністычны суботнік.

Архітэктары Данілавы пачыналі вуліцу Кірава з нуля. Прыклала да гэтага сваю руку і талент варшаўскі архітэктар Соф'я Вінавер. У свой час яна эмігрыравала ў СССР, але ж была арыштавана і саслана ў Сібір на 10 гадоў. Пасля гэтага ёй было забаронена жыць у Маскве і яна выбрала Віцебск. С.Вінавер пачынала нулявы цыкл самага прыгожага дома па вул. Кірава, дзе зараз знаходзіцца вучэльня № 19. За 5 гадоў была адроджана з попелу былая Вакзальная вуліца. Зараз яна гарманічна ўліваецца ў цэнтр Віцебска, які складае не толькі пл.Свабоды, але ж і Духаўскі яр. У ім размясцілася адна з лепшых канцэртных пляцовак не толькі былога СССР, але і Еўропы — амфітэатр "Форум". Ніводнае свята ў горадзе не абыходзіцца без тэатралізаваных выступленняў спартсменаў, парашутыстаў. Сапраўды горад на гэта мае права: у 1895 годзе ў Віцебску першая жанчына-парашутыстка Драўніцкая зрабіла свой першы скачок.

На Духаўскай гары напачатку стагоддзя, дакладней, у 1902 годзе, была пабудавана жаночая епархіяльная вучэльня, першая свецкая навучальная ўстанова ў Беларусі.

Удзельнікі II Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага мастацтва ў Мінску (1997 г.) першымі даведаліся, што лепшыя стаматолагі жывуць і працуюць у Віцебску. Але ж мала хто памятае, што ў Віцебску адкрыўся першы ў рэспубліцы супрацьтуберкулёзны дыспансер у 1921 годзе.

У 1994 годзе ў Віцебску адкрыўся першы ў былым СССР музей прыватных калекцый, і толькі праз паўгода падобны з'явіўся ў Маскве.

Такім чынам, зоркі спрыяюць нашаму старажытнаму Віцебску быць першым і непаўторным па шмат якіх аспектах. І тыя, хто наведалі яго хоць раз, памятаюць Віцебск як першае каханне.

**Эла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

# ЗОРКІ — "ЗОРКАМ"

## АСТРАПСІХАЛАГІЧНЫ ПРАГНОЗ ДЛЯ ТВОРЧЫХ ЛЮДЗЕЙ НА ПЕРЫЯД З 6 ПА 12 КАСТРЫЧНІКА

Тыдзень з 6 па 12 кастрычніка будзе паспяховым і прынясе добрыя вынікі ў адказ на творчыя высілкі многіх людзей. Найбольш паспяховым стане перыяд з панядзелка па чацвер. У гэты час многія з нас адчуюць нечаканы прыліў стваральных сіл, а буйныя планы, праекты і распрацоўкі, "застыглыя" на працягу апошніх некалькіх тыдняў, атрымаюць штуршок для далейшай рэалізацыі. Для многіх людзей у гэты час будуць актуальнымі тэмы падарожжаў, прызнання заслуг і грамадскага становішча, якое яны займаюць. Праўда, развагі пра згвалтаваную справядлівасць і неадпаведнасць свайго месца здольнасцям і талентам наўрад ці будуць мець пад сабой сур'ёзныя падставы, затое сапсаваць настрой здолеюць напэўна. Напрыканцы тыдня атмасфера стане больш напружанай.

АВЕН: Вам гэты тыдзень здольны прынесці поспех у рэалізацыі раней распрацаваных важных тэарэтычных планаў, напрацовак, а таксама ў кантактах з сябрамі. Прыцягнуць да сябе вашу ўвагу падарожжы і магчымасці пашырыць свой кругагляд. Напрыканцы тыдня будзе цяжка прыняць пункт погляду апанента пры высвятленні адносінаў. Залішнія амбіцыі могуць не дазволіць вам спакойна дасягнуць кампрамісу.

ЦЯЛЕЦ: Паспяховымі стануць у першай палове і ў сярэдзіне тыдня ўсе справы, звязаныя з задавальненнем уласных намераў. Вашую ўвагу прыцягне да сябе таксама неабходнасць штосьці радыкальна змяніць у сваім атачэнні, праўда, спяшацца з гэтым пакуль не варта. Напрыканцы тыдня могуць узнікнуць праблемы з прычыны складанасці напоўніцу выказаць сваё майстэрства. Не кідайцеся на злом галавы, зрабіце сабе ў гэты час невялікі адпачынак.

БЛІЗНЯТЫ: Пачатак гэтага тыдня будзе паспяховым для розных спраў, што патрабуюць вялікай рызыкі пры рэалізацыі ўласных задум і ініцыятыў. У яго сярэдзіне паспяховымі могуць быць падарожжы і ўсялякія заняткі, што спрыяюць пашырэнню вашага кругагляду і адукацыйнага ўзроўню. Напрыканцы тыдня імкніцеся не рызыкаваць і не прымаць авантурныя рашэнні.

РАК: На пачатку гэтага тыдня будзе карысна звярнуцца да вытокаў. Паспяховымі будуць вывучэнне і заняткі традыцыйнымі мастацкімі рамёствамі. Усялякія авангардныя ды экстраардынарныя "выхадкі" ў гэты час яўна не для вас. Вы здолееце ўнесці свежыя фарбы ў банальныя і звыклыя, на першы погляд, прыёмы ў творчым самавыказванні. У сярэдзіне тыдня давядзецца надаць увагу ўзроўню свайго майстэрства. Напрыканцы тыдня, калі вы дазволіце сабе заняць залішне прынцыповую пазіцыю, магчымыя цяжкасці пры стасунках з братамі па творчасці.

ЛЕЎ: Пры ўмелым валоданні вуснай і пісьмовай мовай вы будзеце ўдачлівымі ў напісанні розных артыкулаў, опусаў ды нататак, а кантракты, падпісаныя вамі ў сярэдзіне тыдня, будуць вельмі перспектыўнымі і максімальна выгаднымі для вас. У гэты ж час прыцягнуць вашу ўвагу і ўсялякія авантуры і рамантычныя прыгоды. Імкніцеся не раскідваць свае сілы, а напрыканцы тыдня не прыспешвайце дасягненне раней акрэсленага, калі не паспелі зрабіць гэта ў яго сярэдзіне.

ПАННА: Гэты тыдзень дазволіць вам паспяхова прадэманстраваць сваё майстэрства. Праўда, для гэтага неабходна будзе правільна праанялізаваць і разлічыць уласныя сілы і магчымасці. У сярэдзіне тыдня вашую ўвагу прыцягнуць да сябе пытанні традыцыі і помнікі культуры. Прыгледзьцеся ў гэты час да ўсяго, што здасца вам цікавым, але штосьці значна мяняць ў сваіх распрацоўках пакуль не спяшайцеся.

ШАЛІ: Уменне правільна разлічыць ўласныя сілы і адэкватна паказаць сябе публіцы дазволіць вам на пачатку гэтага тыдня застацца пераможцам, шырока выкарыстаўшы экспромт і нестандартныя рашэнні. Звярніце ўвагу ў сярэдзіне тыдня на свае сувязі і кола знаёмых. Не згубіце шанц іх пашырыць дзеля кар'ысці ў будучыні. Напрыканцы тыдня імкніцеся не працаваць да знясіленасці, знайдзіце час для паўнавартаснага здаровага адпачынку.

СКАРПІЁН: Здольнасць знайсці схаваны сэнс у банальных, на першы погляд, рэчах дазволіць вам на пачатку гэтага тыдня пазбегнуць розных непаразуменняў, звязаных з інтэрпрэтацыяй гістарычных фактаў. Імкніцеся выказаць дальнабачнасць у выглядзе клапатлівасці ў адносінах да апанентаў. Акрамя гэтага, у сярэдзіне тыдня верагоднае невялікае, але ўсё ж прыемнае папаўненне кашалька, а напрыканцы тыдня адкладзіце свой удзел у розных сумніўных мерапрыемствах і закулісных маніпуляцыях і інтрыгах.

СТРАЛЕЦ: Уменне проста, цікава, нават з інтрыгай распавесці пра ўласныя творчыя планы, праекты і напрацоўкі будзе спрыяць вам на пачатку гэтага тыдня ў пашырэнні кола знаёмых, частка з якіх можа стаць вашымі аднадумцамі. Тым самым вы набудзеце патэнцыйных партнёраў для будучай рэалізацыі сваіх ідэй. Пры гэтам надайце належную ўвагу свайму іміджу, ён будзе адным са складнікаў поспеху. Напрыканцы тыдня не спяшайцеся прымаць прапановы ад новаспечаных паплечнікаў, адкладзіце іхні разгляд на некалькі дзён.

КАЗЯРОГ: Умелае выкарыстанне папулярнасці, сваёй беззаганнай рэпутацыі і імя дазволіць на пачатку гэтага тыдня паспяхова вырашыць шэраг спраў, звязаных з матэрыяльным дабрабытам. Акты дабрачыннасці і міласэрнасці яшчэ больш узнімуць вышэйпамянёны аўтарытэт і прэстыж. У сярэдзіне тыдня вашую ўвагу могуць прыцягнуць да сябе розныя неафіцыйныя мерапрыемствы. Напрыканцы яго не варта дэманстраваць свае заслугі і хваліцца высокімі сувязямі без асаблівай патрэбы.

ВАДАЛЕЙ: Добрая магчымасць і сябе паказаць, і людзей паглядзець з'явіцца ў вас на пачатку гэтага тыдня. Гэта зусім не значыць, што вам неабходна ехаць у далёкія краіны альбо наладжваць грандыёзную прэс-канферэнцыю. Проста здолейце ў любых абставінах, як кажуць кітайцы, захаваць свой твар і прадэманстраваць стрыманасць і далікатнасць манер. Такі падыход спрыяе пашырэнню кола добрых знаёмых і будзе спадарожнічаць у добрых ініцыятывах. Напрыканцы тыдня не спяшайцеся хутка прымаць якія-небудзь прапановы, дайце ім "пастаяць".

РЫБЫ: Уважлівае стаўленне да ўсяго ўбачанага і пачутага, а таксама ўменне правільна тлумачыць уласныя адчуванні дазволіць у пачатку гэтага тыдня абысці розныя непрыемнасці і напоўню рэалізаваць задумы. Пры гэтым абавязкова звярніце ўвагу на тую рэпутацыю, якую вы можаце заслужыць у выніку розных сумніўных дзеянняў. Не прамяняйце сваё добрае імя на хвілінную вядомасць. Яна можа быць скандальнай.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт**
**"Акварыуніверсітэта".**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца
з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ПЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 2.10.97. у 16.00.
Замова 5866

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**